Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр.

# Саха

Падпісная плата:

за год . . . . . 5 зл.
за паўгода . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр.

Адрэс рэдакцыі і адміністр.
**Вільня, Віленская 8—3.**

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

**БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ,**

**выдавецтва Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.**



№ 3 | Вільня. Лістапад 1930 г. | Год I.



## Зьмест:



ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

*Зьвяртаем увагу грамадзян, якія хочуць надалей атрымліваць наш месячнік, што часопіс з гэтага нумару будзе высылацца тым, ад каго атрымана належная падпісная плата.*

*Адміністрацыя.*

Год I-ы № 3

# САХА

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

Вільня Лістапад 1930

## Аб зьмене сыстэмы гаспадараваньня.

Цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты, а перадусім на збожжа так упалі, што прадукаваньне яго на продаж перастала аплачвацца. Такое цяжкае палажэньне вёскі набірае яшчэ большае вагі, бо на хуткае падвышэньне цэнаў збожжа і разьлічаць нельга. Трэба хутчэй спадзявацца, што танная прадукцыя заакеанскага збожжа будзе яшчэ даўжэйшы час трымаць цэны іх на такім-жа нізкім роўні. Такім чынам для селяніна паўстае цяжкае і важнае пытаньне: як пакіраваць сваю гаспадарку, каб даходнасьць яе павялічылася?

Эўропэйскія сяляне ў часы падобнага крызісу, які цягнуўся з 1876 г. па 1902 год, скіравалі сваю гаспадарку ў бок жывёлагадоўлі, разводзячы, галоўным чынам, малочную жывёлу. Дробная сельская эўропейская гаспадарка ў гэты час, як зазначаюць многія эканамісты, ня толькі не аслабла, але яшчэ больш узмацнілася і пашыралася за кошт буйнай. Шмат буйных гаспадарак, дзякуючы паніжэньню цэнаў на збожжа, перасталі быць даходнымі і распрадаваліся. Дробная гаспадарка, дзякуючы жывёлагадоўлі, аказалася мацнейшай за буйную.

Пара было-б, каб і нашы сяляне гэта зразумелі і пераводзілі сваю гаспадарку з збажовае на гадаўляную. Аб карыснасьці такога кірунку сьведчыць тое, што людзі ўсё ў большай колькасьці замяняюць мучную яду прадуктамі жывёлагадоўлі. Прыкладам: гандаль маслам узрос за апошнія гады, у стасунку да гадоў перадваенных, на 50 працэнтаў. Да таго трэба яшчэ дадаць, што цана прадуктаў жывёлагадоўлі падлягае лепшым пераходавым ваганьням, чым цана збожжа.

Зразумела, што для вядзеньня прадуктыўнае жывёлагадоўлі мусіць быць грунтоўна зьменена сыстэма як палявое, так і лугавое нашае гаспадаркі. Трэба, каб на палёх высявалася больш кармовае травы, — каб канюшына займала $^1/_6$ пасеваў пры двухгадовым яе карыстаньні (раней, як праз 6 год ня можна высяваць канюшыны на тым-жа самым мейсцы). Не пакідаць папару пустым, а засяваць яго рожнага роду кармовымі мешанінамі, як віка з аўсом, гарох з аўсом і інш., і падсяваць сэрадэлю ў збажжовыя расьліны. Павялічыць высяўною плошчу пад асыпныя расьліны, як бульба, кармовыя буракі, кармовая морква і інш. З асыпных у нас найбольш сеюць бульбу, якая прыблізна займае у сярэднім каля $^1/_{10}$ пасеўнае плошчы. Дзеля вядзеньня прадуктыўнай жывёлагадоўлі, трэба каб пад асыпныя адводзілася ня менш $^1/_4$ пасеваў. Ад асыпных мы маем падвой-

ную карысьць: папершае, яны даюць у 3—4 разы болей пажыўнага матэрыялу, чым збажжовыя з тае самае плошчы, а падругое, пасьля іх поле становіцца чысьцейшым і, дзякуючы глыбокай апрацоўцы, наступныя расьліны лепей выкарыстоўваюць глебу.

Таксама можна атрымаць шмат корму, падсяваючы кармовую рэпу і кармовую моркву ў жыта, віку, мак і інш. Пры адпаведных варунках, можна высяваць кармовую рэпу і пасьля збору азіміны. Такім чынам можна атрымаць у адзін год два зборы ўраджаю.

Значна можна павялічыць ураджаі сенажацьцяў, калі пэрыядычна аднаўляць, вядучы на іх 3—4 гады палявую гаспадарку. Пры гэтым такія расьліны, як караньплоды, варыва і алейныя расьліны (лён), якія патрабуюць шмат вады і пажыўных складнікоў, засеяныя на разробленай сенажаці, даюць поўныя ўраджаі, якіх ня можна дасягнуць на звычайных палёх.

Агулам кажучы, шмат было-б лепш і карысьней, каб нашы сяляне пакінулі трохпольле і перайшлі на шматпольную сыстэму з правідловым чаргаваньнем расьлінаў. Сярод іх павінна быць адпаведная колькасьць кармовых траваў і асыпных. Аднак, усе гэтыя мерапрыемствы цяжка правесьці пры шнуравой гаспадарцы (церазпалосіца, шахоўніца), а дзеля таго камасацыя грунтаў павінна быць для нас першачарговым заданьнем, без якое вядзеньне прадуктыўнай жывёлагадоўлі зьяўляецца вельмі трудным.

Паставіўшы заданьнем павесьці сваю гаспадарку ў кірунку жывёлагадоўлі, трэба замяніць сваю малапрадуктыўную жывёлу на больш прадуктыўную. Трэба, каб наша дойная жывёла не гадавалася толькі для гною, а давала яшчэ ў год 200 вёдзер малака і пры належнай арганізацыі збыту малочных прадуктаў, дойная жывёла будзе даваць вялікі даход гаспадарцы. А дзеля таго, гаспадары нашыя павінны старацца, па першае, завесьці ў сябе добрую, дойную жывёлу, а падругое, арганізоўвацца ў малочныя коопэратыўныя таварыствы па пераробу малака і збыту малочных прадуктаў Пры арганізацыі збыту малочных прадуктаў, для дробнага гаспадара няма ніякага сэнсу трымаць коней, што мы бачым ў Эўропе, дзе большасьць дробных гаспадароў абрабляе зямлю каровамі.

Як бачым, дзеля падвышэньня даходнасьці нашай сельскай гаспадаркі, вымагаецца зьмена амаль-што ня ўсіх яе галінаў, але гэтыя зьмены так хутка правесьці нельга. Ды наогул, зьмены ў гаспадарцы заўсёды павінны праводзіцца паступова, бо рожныя яе галіны цесна паміж сабою зьвязаны і, зьмяніўшы адну галіну, трэба мяняць і другую, а то і некалькі іншых.

Тымчасам, гаспадар усьцяж мае пэўныя выдаткі і да таго, пры зьмене сыстэмы гаспадараваньня, паўстаюць яшчэ новыя выдаткі, — як на завядзеньне лепшае дойнае жывёлы, на закупку насеньня, будову і інш. Вось-жа на пакрыцьцё гэтых выдаткаў гаспадар павінен мець і зыскі. Гэтыя зыскі гаспадар можа атрымаць добра арганізаванай гадоўляй дробнае жывёлы і свойскага птаства. Дзеля развядзеньня добрых прадуктыўных расаў дробнае жывёлы і свойскага птаства, шмат капіталу не патрабуецца. Пры гэтым заложаны ў іх капітал абяртаецца вельмі шыбка, даючы гаспадару досыць значныя зыскі. З дробнай жывёлы найпаважнейшае мейсца ў нас займаюць

сьвіньні. Пры завядзеньні скарасьпелай расы і ўмелым яе даглядзе можна мець значны даход. Далей гадоўля носных і мясных курэй і іншага свойскага птаства, а таксама гадоўля трусоў, у сучасных умовах, можа быць важным жаралом прыбыткаў у сельскай гаспадарцы.

**С. Б.**

---

# Сельска-гаспадарчая коопэрацыя.

(Дакончаньне).

Сельска-гаспадарчая коопэрацыя ня толькі прыносіць беспасярэднія матэрыяльныя карысьці скоопэратызаванаму сялянству, але ў той-жа самы час яна мае тую дадатнюю свомасьць, што вытварае паступовую рэконструкцыю сялянскае гаспадаркі на больш рацыянальных падставах, павялічваючы і паляпшаючы яе вытворчасьць. Пытаньне аб рэконструкцыі ўсяе сялянскае гаспадаркі на гэтых падставах зьяўляецца адным з галаўнейшых соцыяльна-эканамічных пытаньняў цяперашняга часу. Да відавочнасьці сталася ясным, што сялянская гаспадарка вясьціся далей, як яна вялася да гэтага часу ў адсталых старонках — ня можа.

Павялічэньне сельскага насельніцтва—вядзе да раздрабленьня сялянскіх зямельных абшараў да мінімальных памераў, на якіх ніякая рацыянальная гаспадарка, пастаўленая на навуковых падставах, вясьціся ня можа. Сялянства, асеўшая на дробных зямельных надзелах, можа толькі калупаць зямлю, трацячы і сілы і паніжаючы тым самым яе вытворчасьць.

Ніякія ўдасканаленьні ў галіне земляробства, жывёлагадоўлі і ў іншых галінах з прычыны беднасьці пераважнае масы сялянства, не даступны.

Сялянства на нашых вачох руйнуецца і пападае ўсё ў большую залежнасьць ад прыроды. Пэрыядычныя неўраджаі можна вытлумачыць, галоўным чынам, немагчымасьцю для нашага сялянства весьці рацыянальную гаспадарку, дзе пры шматпольнай, напр., сыстэме — небясьпека неўраджаю была-б зьведзена да мінімума.

Дзякуючы надзвычайнаму раздрабленьню зямельных абшараў, на якіх вядзецца сялянская гаспадарка, яна зьяўляецца ў сучасны мамэнт самай адсталай, і неадпавядаючай да мэты гаспадарчай, формай.

А разам з тым павялічваецца колькасьць насельніцтва ня толькі на вёсцы, але і ў местах, павялічваюцца запатрэбаваньні на прадукты сельскае гаспадаркі і гэтае павялічэньне будзе сталым, пакуль ня спыніцца рост насельніцтва, на што ў нас няма пакуль-што ніякіх разьлічэньняў.

Запаўненьне эўропэйскіх рынкаў амэрыканскім хлебам — зьявішча ня вечнае і можа ў хуткім часе спыніцца, з увагі на пашырэньне свайго ўласнага ўнутранага рынку, дзякуючы калясальнаму росту амэрыканскіх местаў.

Нават і пры істнаваньні ўвозу на эўропэйскіа рынкі амэрыканскага хлеба, ня ўсё сялянскае насельніцтва ім будзе сыта. Пераважная большасьць сялянста павінна знайсьці ўласнымі сіламі пракармленьне, інакш яно прызначаецца на сталую галадоўку, што мы ўжо і спасьцярагаем у найбольш аграрна-адсталых старонках.

Разьлічэньні сялянскіх масаў на аграрныя рэвалюцыі або рэформы ня могуць апраўдаць сябе ў поўнай меры. У тых старонках, дзе з аднэй стараны істнуюць масы безьзямельных, а з другой стараны — буйныя абшары, межы гэтых апошніх могуць толькі часова задаваляць зямельны голад — і толькі. Праз кароткі час эканамічнае палажэньне сялянства апыніцца такім самым, якім яно і было да перадзелу з тэй толькі розьніцай, што больш дзяліць ужо ня будзе чаго. Усё гэта гаворыць за тым, што выхад з палажэньня можа быць знойдзены ў радыкальнай рэконструкцыі сялянскае гаспадаркі.

Гэтая рэконструкцыя павінна адначасна вясьціся з двух бакоў.

Перш-наперш павінна праводзіцца самым інтэнсыўным спосабам меры агранамічна-тэхнічнага характару, скіраваныя на палепшаньне спосабаў апрацоўкі зямлі, палепшаньня насеньня, пародаў жывёлы і г. д.

Аб гэтай галіне мераў павінен клапаціцца ўрад і органы мясцовага самаўраду і яна не ўваходзіць у нашую тэму. Аднак, адных гэтых мераў не даволі. Сялянская гаспадарка ў цэласьці вымагае ня толькі тэхнічнае рэконструкцыі, але і соцыяльна-эканамічнай, без якой шмат якія тэхнічныя загады правесьці ня ўдасца. Для ўсіх павінна быць ясным, што сялянская гаспадарка вымагае і „ўбуйненьня", бо яна разьбіта цяпер на вельмі малыя гаспадарчыя адзінкі, дзе ня можа быць праведзенай якая-небудзь грунтоўная рэконструкцыя.

Неабходна скіраваць высілкі да таго, каб паасобныя гаспадарчыя працэсы, якія дагэтуль выконваліся сялянствам на індывідуальных пачатках, — адбываліся колектыўна, толькі тады можна думаць аб удасканаленых спосабах вядзеньня гаспадаркі.

Калі, напрыклад, сьцверджана, што жніўяркі даюць шмат гаспадарчых плюсаў пры ўборцы ўраджаю, а з другога боку яны недаступныя для індывідуальнае гаспадаркі, то адсюль вынікае лёгічны вывад, што неабходна некалькі такіх гаспадарак аб'яднаць ў такі саюз, якому было-б пад сілу набыцьцё неабходнай машыны.

Калі вядома, што прадукцыя масла зьяўляецца ў шмат якіх раёнах вельмі карыснай, а наладжаньне яе на рацыянальных падставах з належным тэхнічным азбраеньнем магчыма толькі для абшарнікаў, вывад адсюль той самы, што і ў першым выпадку.

**Такім чынам, г. зв. „убуйненьне" сялянскае гаспадаркі павінна пачынацца з убуйненьня паасобных тэхнічных працэсаў, з якіх складаецца сельска-гаспадарчая вытворчасьць, і гэтае ўбуйненьне магчыма для сялянства толькі пры дапамозе коопэрацыі.**

Коопэратыўная рэконструкцыя сялянскае гаспадаркі вышэй азначаным шляхам, зьяўляецца адзіным спосабам, які можа вывесьці яе з таго застаю, у якім яна знаходзіцца да цяперашняга часу.

Толькі пры істнаваньні ўбуйненае коопэратыўнае гаспадаркі можна весьці яе па раней прадуманым плянам.

Уцягіваючыся ў коопэратыўнае жыцьцё, кожная індывідуальная сялянская гаспадарка становіцца пад коопэратыўную кантролю і тым

самым губляе свой зачынены характар. дзе яна вялася на правох усіх боскіх і людзкіх законаў. На гэтую акалічнасьць зьвяртае ўвагу, між іншым, і Ст. Войцэхоўскі ў сваёй працы: „Kooperacja w rozwoju historycznym“, дзе кажа: „Індывідуальныя гаспадаркі сяброў што раз-то больш падлягаюць супольнаму пляну, выпрацаванаму ў коопэратывах, у што раз лічнейшых пунктах вяжуцца з сабой і дастасоўваюцца да грамадзкіх вымогаў. Такім-жа спосабам, коопэрацыя паступова пераводзіць земляробства ад тыпу адасобненай, адсталай, непляновай гаспадаркі да тыпу гаспадаркі аб'еднанай, паступовай грамадзкі арганізаванай“ (стр. 299).

Пагляд, што адпаведным да мэты тыпам сялянскае гаспадаркі зьяўляецца тып гаспадркі аб'еднанай, грамадзкі арганізаванай — ёсьць агульнапрызнаным у коопэратыўнай літэратуры.

Аднак, да гэтага часу амаль ніхто не зрабіў наступнага лёгічнага кроку ў гэтым кірунку.

Ніводная палітычная партыя да гэтага часу не паставіла яшчэ на чале сваёй соцыяльна-эканамічнай праграмы—грунтоўную рэконструкцыю ўсяе сялянскае гаспадаркі на коопэратыўных падставах, з пераводам гэтых падставаў на наступную, больш дасканальную стадыю разьвіцьця ў меру дасьпяваньня да гэтага адпаведных умоваў.

Калі сучасныя палітычныя партыі і пасьвячаюць крыху ўвагі пытаньням коопэрацыі, то лічаць іх другараднымі і робяць гэта больш па традыцыі, чым па пераконаньню.

Такімі адносінамі палітычных партыяў, адыгрываючых рашаючую ролю ў жыцьці кожнае дзяржавы, можна вытлумачыць да пэўнай ступені той факт, што дагэтуль коопэратары не склалі яшчэ канкрэтнага пляну рэконструкцыі сялянскае гаспадаркі на коопэратыўных падставах, які можна было-б паступова праводзіць у жыцьцё ў агульна-дзяржаўнай скалі, нават пры існуючых цяпер соцыяльна-палітычных умовах.

Такія коопэратыўныя пляны не складаюцца проста таму, што імі ня цікавяцца сучасныя палітыкі ня толькі з ліку тых, якія заняты разбураючай работай у імя будучага дабрабыту, але і тыя, якія кажуць, што яны вядуць нейкую творчую працу на вёсцы.

Аграмадная большасьць сучасных палітыкаў, не выключаючы соцыялістаў і камуністаў, проста не разьбіраецца ў пытаньнях коопэрацыі і не разумее таго, якую аграмадную ролю яна можа адыгрываць і ўжо адыгрывае ў рэарганізацыі жыцьця на больш мэтаадпаведных пачатках.

Каб правесьці рэконструкцыю ўсяе сялянскае гаспадаркі на коопэратыўных падставах — павінна заняцца гэтаю справай сама дзяржава дапамагаючы паглыбленьню і пашырэньню коопэратыўнага руху.

У палепшаньні спосабаў абробкі зямлі, ў рацыянальнай арганізацыі сялянскай гаспадаркі і павялічэньні яго прадуктыўнасьці зацікаўлена ня толькі адно сялянства, але і цалком усё грамадзянства.

Вось чаму нельга зваліць усю справу рэконструкцыі сялянскае гаспадаркі на плечы толькі аднаго сялянства. Як-бы не разьвівалася яго самадзеяльнасьць у коопэратыўным будаўніцтве і як-бы высока

не стаяла яго сьвядомасьць — адных сялянскіх сілаў і сродкаў мала для гэтак важнае і вялікае справы.

Дзяржавы і органы мясцовага самаўраду павінны рэгулярна і плянова памагаць сельска-гаспадарчай коопэрацыі.

Яны павінны праводзіць у жыцьцё пачаткі мэтаадпаведнай коопэратыўнай палітыкі, спрыяючай коопэратыўным формам у сельскай гаспадарцы. З другога боку, яны павінны пабудаваць сваю палітыку ў гэтым кірунку такім чынам, каб яна не забівала дух ініцыятывы і самадзеяльнасьці самога коопэратызаванага насельніцтва і каб гэтая апека над коопэрацыяй не ператварылася ў бяздушны формалізм або надмернае патураньне, ня выкліканае сапраўднымі патрэбамі. Гэтае апошняе магло-б мець той вынік, што паўсталі-б слабыя, нятрывалыя коопэратыўныя арганізацыі, зусім няздольныя да самастойнага існаваньня.

Адным словам, апрацаваньне падставовых пачаткаў коопэратыўнае палітыкі, стаўляючай за мэту вышэйазначаныя пачаткі, — справа ня лёгкая.

Аднак, няма нічога немагчымага ў гэтай галіне, каб толькі была добрая воля і разуменьне важнасьці гэтае справы для ўсяе народнае гаспадаркі. Урэшце, сьвядомасьць усяго сялянскага жыхарства павінна быць паднята да такой ступені, пры якой яна павінна здаваць сабе справу ў тым, што адзіным шляхам да лепшае будучыні ўсяго сялянства зьяўляецца шлях коопэрацыі. Другіх шляхоў няма і ня можа быць — у гэтым усе цяпер згодны, пачынаючы ад міралюбных рэформатараў аж да камуністаў.

Да гэтага вываду прыйшоў незадоўга перад сьмерцьцю і Ленін, які пабачыў усю разруху, вынікшую з штучнага насаджваньня камунаў на вёсцы, выклікаўшых агульную ненавісьць сялянскіх масаў.

„Лад цывілізаваных коопэратываў — гэта і ёсьць соцыялістычны лад на вёсцы“ — гэтую думку неаднакроць выказываў Ленін у сваіх апошніх працах і гэтае простае думкі здаецца і да гэтага часу не зразумелі радавыя камуністы, якія пасвойму „перакруцілі“ плян Леніна і замест соцыялізму ўвялі на вёсцы адносіны больш падобныя да прыгонных, чым да соцыялістычных.

Чым хутчэй сялянства зразумее сапраўднае значэньне коопэрацыі ў справе рэформаваньня сваёй гаспадаркі, — тым хутчэй яно выйдзе на шырокі шлях з таго занепаду, у які яно трапіла.

---

На заканчэньне ня можна абыйсьці моўчкі таго значэньня, якое павінна мець сельска-гаспадарчая коопэрацыя ў соцыяльна-палітычным адношаньні. Да зьяўленьня коопэрацыі ўсё сялянства цалком выяўляла слабую неарганізаваную масу, якая была, дзякуючы сваёй неарганізаванасьці, аб'ектам чыёй-небудзь, але толькі не сялянскай, палітыкі.

Коопэрацыя стварае разам з тым і трывалы соцыяльна-палітычны саюз усяго працоўнага сялянства, маючага супольныя мэты.

Гэтая акалічнасьць вельмі важная, асабліва ў наш век, калі ўсе клясы грамадзянства, знаходзячыся ў стане бязупыннай барацьбы, —

арганізаваны ці то ў профэсіянальных саюзах рабочых, ці то капіталістычных трэстах і концэрнах і г. д.

У сучасным грамадзянстве ідзе барацьба паасобных розных групаў і розных клясаў між сабой. Тая кляса або група, якая знаходзіцца ў неарганізаваным стане, заўсёды праігрываець у гэтай барацьбе й заўсёды зьяўляецца параможанай.

У большай ступені тыя „ножніцы", якія істнуюць цяпер між сельска-гаспадарчымі і прамысловыі таварамі тлумачацца тэй акалічнасьцю, што як прамыслоўцы, так і работнікі маюць больш сільныя эканамічныя арганізацыі, чым разрозьненыя, ў большасьці выпадкаў, земляробы.

Самы трывалы грунт для будовы абы якой арганізацыі — ёсьць эканамічны.

Для сялянскіх масаў такой арганізацыяй можа быць толькі коопэратыўная, якая толькі адна можа стварыць сялянскую грамадзкасьць з тэй соцыяльна-палітычнай удзельнай вагай, якая ёй належыць па праву.

**Ф. Акінчыц.**

---

# Як карміць і даглядаць паросную сьвіньню.

З таго часу, як сьвіньня пагуляла, што можна пазнаць па добраму апэтыту сьвіньні і нехаценьні яе да кныра, за ёю трэба мець добры догляд, бо ад гэтага залежыць здароўе парасят.

Паросную сьвіньню трэба карміць умеючы, каб яна ня была вельмі худой і вельмі тлустай. Ад худой сьвіньні парасяты родзяцца худымі і ня зусім здаровымі. Тлустая сьвіньня таксама дае парасят мала і вельмі дрэнных. Ад тлустай сьвіньні парасяты могуць заразжа пасьля апарасеньня падохнуць

Дрэнны корм на паросных сьвіней можа рабіць таксама дрэнны ўплыў.

Ім ня трэба даваць шмат макухі, ад якой парасяты тлусьцеюць. Няможна пароснай сьвіньні даваць зацьвілых, закіслых і наогул дрэнных кармоў.

Лепшымі кармамі для пароснай сьвіньні лічацца: авёс, ячмень, высеўкі, вараная бульба, морква, буракі, зялёная трава і сьвежае малако.

У корм паросным сьвіньням трэба абавязкова даваць фосфарна-кальцавую соль, якую можна набыць у с.-г. складах і аптэках. Калі такой солі няма, дык замест яе можна даваць паломаныя, пакрышаныя і папаленыя косьці, яечныя шалупайкі, крэйду ды інш.

Патрэбна паросную сьвіньню добра берагчы, інакш яна можа скінуць. Скід у сьвіней можа быць ад страсеньня ці калі яе паганяюць сабакі. Ад паеньня халоднай вадой сьвіньня таксама скідае. Халодная вада мае такі ўплыў на нутраныя органы, што матка

пачынае выкідаць парасят. Бязумоўна, сьвіньня можа скідаць і ад дрэнных гнілых зацьвілых кармоў ды інш.

Калі сьвіньню добра берагчы ад скіду, дык у яе будзе і добрае парасеньне.

Парасяты вырастуць у свіньні добрыя толькі тады, калі за ёй будзе ўважны дагляд, калі яна будзе хадзіць на сьвежым паветры і г. д.

Вельмі добра ўлетку паросных сьвіней пасьвіць. Калі пашы няма, дык добра хоць-бы выганяць у дворык.

Зімою ў добрую пагоду таксама трэба выганяць сьвіней у загародку хаця-б на некалькі гадзін.

За тыдзень ці два сьвіньню трэба аддзяліць ад іншых і не выганяць яе зусім на двор.

У стойле пароснай сьвіньні павінна быць суха і шмат подсьцілу. Не павінна быць у памяшканьні скразьнякоў, якія могуць шкодна адбівацца на здароўі парасят.

Цікава адзначыць, колькі сьвіньня носіць парасят. Звычайна — 110 — 120 дзён. Каб гэту лічбу лягчэй запамятаць, можна лічыць 3 месячы, 3 тыдні і 3 дні.

За 2—5 гадзін да парасеньня пачынаюцца патугі. Парасяты раджаюцца адно за другім, прыблізна праз 5 хвілін. Парасеньне звычайна цягнецца каля 2 — 5 гадзін. Зараз-жа пасьля парасеньня ў сьвіньні выходзіць месца і яго трэба выкінуць, інакш сьвіньня яго зьесьць і будзе есьці парасят. Таксама трэба выкінуць і мёртвых парасят, каб сьвіньня іх ня зьела і не пачала пасьля гэтага есьці здаровых.

Мёртвыя парасяты бываюць ад розных хвароб сьвіньні, ад дрэннага корму і ў занадта атлусьцелых сьвіней.

Часта маткі, якія нават не зьядаюць месца і мёртвых парасят, ядуць жывых. Гэта здараецца пры кармленьні матак сырым мясам, а такжа пры недахваце ў корме фосфарна-квасных соляй ці іншай якой матэрыі.

Заўважана, што ўлетку, калі сьвіньні ходзяць на пашы, яны не ядуць сваіх парасят.

Для папярэджаньня паяданьня парасят трэба добра глядзець за сьвіньнямі пры парасеньні. У сьвіней, якія ядуць сваіх парасят, апошніх адбіраюць і пускаюць да сьвіньні 6 — 8 разоў на дзень, пакуль яны не акрэпнуць. Калі парасяты троху падрастуць, іх сьвіньня ўжо ня есьць.

У тых сьвіней, якія ядуць парасят, апошніх мажуць трошкі крэалінам, газай ды інш., каб ад іх быў дрэнны пах.

Парасят, якія нарадзіліся, зараз-жа абціраюць сухой анучкаю ці памятай саломай ад сьлізі і кладуць у скрынку, якую пакрываюць мяшком. Калі ў парасят доўгі пуп, дык яго адрываюць да 2 —3 вяршкоў.

Амаль заўсёды пры памёце бываюць парасяты ня роўнай вялічыні.

Драбнейшых парасят падсаджваюць да пярэдніх цыцак, дзе больш малака, а большых—да задніх. Першае разьмеркаваньне парасят, кажуць, так і застаецца да канца іх кармленьня маткаю.

У малых парасят часта бываюць вельмі вострыя зубы, чаму яны кусаюць цыцкі мацеры. Сьвіньня ім не дае ссаць, усхватваецца і можа прыдушыць парасят. Каб гэтага ня было, трэба ў парасят абцугамі паадламваць вострыя канцы зубоў. Калі ў сьвіньні поўна парасят, дык іх лепш падпускаць ссаць у дзьве чаргі, ці адну частку гадаваць не на плямя на кароўім малацэ. Калі-ж у гэты час ёсьць другая матка з малым лікам парасят, дык можна разьмеркаваць парасят пароўну. Чужых парасят сьвіньня можа і ня прыняць, чаму трэба як яе, так і чужых парасят патрошку памазаць крэалінам, нафтаю ці чым іншым пахнучым

Часта ў сьвіней-матак бывае спачатку мала малака. Гэткай матцы трэба даць кароўяга малака і расьціраць яе вымя з алеем ці маслам. Калі ў яе і далей будзе мала малака, дык такую матку трэба забракаваць і пусьціць на адкорм.

Маладыя сьвіньні, таксама як і вельмі тлустыя, давяць сваіх парасят. Для папярэджаньня гэтага, у хлеве, дзе стаіць сьвіньня з парасятамі, павінна быць прасторна і ў подсьціл трэба класьці дробную салому. Калі-ж сьвіньня ўсё-ткі давіць парасят, дык лепш усяго іх трымаць асобна ў скрынцы некаторы час і падпушчаць ссаць 6—7 разоў на суткі. Акрэпшых парасят сьвіньня ўжо не задавіць.

Зараз-жа пасьля нараджэньня ў сьвіней бываюць запоры. Каб гэтага ня было, трэба даць лякарства, як горкую соль, рыцыну ці зрабіць клізму з цёплай вады.

Каб папярэдзіць запоры, ня трэба даваць сьвіньні, якая апарасілася, сухога корму, а толькі баўтушку на працягу першых сутак. Пасьля парасеньня сьвіньню трэба карміць вельмі ўмела. Перш за ўсё ад дрэннага корму, як ужо ўспаміналася, могуць быць запоры, а па другое і малако робіцца вельмі дрэнным з боку якасьці. Такое малако парасяты дрэнна пераграўліваюць і ў іх здараецца панос, ад чаго парасяты гінуць.

Падсосная сьвіньня павінна атрымліваць у здавальняючай колькасьці корму, каб у яе не паменшылася малака. У першыя 3 дні пасьля парасеньня лепшым кормам для сьвіньні будуць аўсянка з малаком і чыстая вада.

Для кармленьня падсосных сьвіней лепшым кормам будзе: ячмень, авёс, бульба, морква, буракі, зялёны корм, пшанічныя высеўкі, сьвежае і кіслае малако. Макухі лепш не даваць. Таксама ня трэба даваць кіслага корму і ўсякіх адкідаў тэхнічнай вытворчасьці. Абавязкова падсоснай сьвіньні трэба даваць у корм фосфарна-вапнавую (фосфарна-кальцавую) соль па чайнай лыжцы ў дзень.

Хлеў, дзе знаходзіцца сьвіньня з парасятамі, павінен быць чысты і цёплы. Карыта трэба мыць чыстай гарачай вадою кожны дзень і паласкаць вадою з вапнай.

Чыстату ў стасунку да сьвіньні з парасятамі трэба падтрымліваць як найлепш, бо ад гэтага залежыць здароўе і рост парасят.

Тых сьвіней, што апарасіліся, пускаць трэба гуляць толькі праз 1½—2 месяцы пасьля парасеньня, калі парасяты ўжо адсаджаны.

**С. Журын.**

(Як выгадаваць добрых парасят)

# Зазімаваньне жывёлы.

Хай будзе, што хоча, але ўсе знакі гаспадарчага жыцьця ў нас нязбіта паказваюць, што пераважываючы дагэтуль кірунак польнае гаспадаркі ў нашым земляробстве, мусіць што раз больш уступаць мейсца кірунку гадаўлянаму. У праціўным выпадку земляробства перастае аплачвацца.

З другога боку, гадаўляны кірунак, як больш паступовы, дае праўда пэўныя карысьці ў параўнаньні з кірункам гаспадаркі польнай, вымагае ўзамен аднак пэўнага, часта, значнага прыгатаваньня, а да таго і ўроджаных здольнасьцяў.

Наш беларускі земляроб з натуры вельмі прывязаны да гадаваньня жывёлы, мае ўроджаны да жывёлагадоўлі нахіл і здольнасьці. Не хапае яму аднак элемэнтарных навуковых асноваў жывёлагадоўлі, без каторых сёньня абыйсьціся нельга.

Усе правілы паступовага абыходжаньня з жывёлаю зводзяцца да аднаго: **як гукнеш, так і адгукнецца.** Важна аб гэтым прыпомніць увосені, калі жывёла, правёўшы блізу паўгоду ў полі, на чыстым паветры, ставіцца ў хлеў. Большасьць жывёлагадоўцаў нашых не здае сабе справаздачы, што знача для жывёлы гэткая перамена спосабу жыцьця. Тут досыць зацеміць, што гэта мае аграмаднае значэньне. Хлеў, у параўнаньні з вольным прасторам палёў, ёсьць для жывёлы турмою, якую трэба на зіму так устроіць, каб жыцьцё там было прынамсі магчымым. Ня толькі для жывёлы самой, але каб і чалавек мог туды зайсьці дый навочна праканацца аб патрэбах гадаванае жывёлы, бо трэба ведаць, што „вокам гаспадаровым жыве жывёла“; гэта знача, чым часьцей і даўжэй бывае гаспадар з жывёлай, тым лепш і паўней пазнае ейныя патрэбы, ейную натуру і тым лепш патрапіць выкарыстаць яе для сябе. А гэта шмат знача, у гэтым ляжаць пачаткі поступу ўсяе гадоўлі.

Для гэтага трэба перадусім, каб хлеў перастаў быць хлявом у дагэтуляшнім значэньні, г. зн. мейсцам, дзе можа вытрываць толькі на ўсё адпорная жывёла і скуль чалавек стараецца ўцячы, як мага хутчэй. Гэтым сказана, чаго нашым хлявом не хапае да таго, каб стацца годным памяшчэньнем для жывога стварэньня. Гожа зазначыць тут, што заграгнічныя жывёлагадоўцы пакладаюць сабе за пункт гонару, каб перш рупіцца аб належным устройстве хлява, чымся ўласнага людзкога памешканьня (!) Ня знача гэта, каб памешканьне такога гаспадара было горшым ад хлява. Гэта знача толькі, што рупны гаспадар належна разумее патрэбы гадаванае жывёлы, каторая сама аб сваіх патрэбах гаварыць ня ўмее, каторая аднак рупнай апекі патрабуе. Ня дзіва, пасьля гэтага, што і карысьці заграгнічных жывёлагадоўцаў бываюць вялікія.

І наша жывёлагадоўля можа значна падняцца, калі гаспадар наш зразумее, як і трэба ўрэшце, што кожная жывёла апрача корму патрабуе належнага чыстага паветра, руху і добрага хлеву. Тымчасам бачым, што нашыя хлявы—нізкія, цёмныя, сырыя. Жывёла ляжыць на гразкім гнаі, які зімой абяртаецца ў груду. Вакон у хлявох

або зусім няма, або запханыя анучамі. Сьцены поўныя павуціньня. у якой шмат усякай брыдоты, мух і г. д.

Пакуль гэтак будзе, нельга чакаць карысьці ад жывёлагадоўлі. Таму трэба старыя хлявы перад зімой ачысьціць, выбяліць вапнай, вокны вымыць, дапасаваць добра дзьверы, якія да таго найлепш абабіць саламянымі пляцёнкамі, насамперш пры гзымсах і шпарах. Дзе і як толькі можна трэба ў хлявох даць столі (з аполкаў, з круглякоў), на якія даецца пасьля салому, або лісьцё ці мох. Падмуроўку трэба таксама паправіць.

Усё гэта рэчы, ад якіх і той найбяднейшы гаспадар ня можа адмовіцца, што „ня мае часу“. Трэба толькі ахвоты крыху і добрае волі. А шмат-шмат недахопаў можна паправіць, каб мець пасьля з жывёлагадоўлі найлепшую карысьць.

Нельга забыцца таксама ўспомнянага руху для жывёлы: раз у дзень, прынамсі, на гадзінку жывёла мусіць пабываць на вольным і чыстым паветры. Гаспадар.

# Агульныя правілы аб здароўі жывёлы.

Кожны, хто мае жывёлу павінен дбаць аб тым, каб яна прыносіла як найбольш карысьці ў гаспадарцы. Гэтага-ж можна дасягнуць толькі тады, калі жывёла будзе здаровая. Вось-жа, каб жывёла была здаровая, а значыцца, вытрывалая ў працы і карысная ў гаспадарцы мы і пагаворым у гэтым артыкуле.

Аб здароўі пэўнага індывідума перш за ўсё сьведчыць яго вонкавы выгляд: яснае вока, гладкая і блішчастая шэрсьць, роўнае дыханьне, рухлівасьць. Калі гэтыя адзнакі жывёла мае — яна здаровая. Усе індывідумы, якіх склад, будова і фізычны выгляд адпавядаюць складу і выгляду нармальнага тыпу, лічым здаровыі ў вузкім сэнсе слова, альбо абсалютна здаровымі. Абсалютна здаровых індывідумаў, у такім сэнсе, ёсьць вельмі мала, бо заўсёды знойдуцца малыя, можа нават чуць прыкметныя адхілы ад патрэбных правілаў у гадоўлі жывёлы. Цяпер пяройдзем да шырокага, альбо рэлятыўнага, памернага разуменьня здароўя. Рэлятыўна здаровымі лічым такія індывідумы, якіх жыцьцёвыя працесы праходзяць нармальна. Каротка кажучы, здаровым ёсьць той нармальны стан, у якім усе жыцьцёвыя працэсы праходзць роўнамерна. Кожны індывідум ёсьць здаровым у рэлятыўным сэнсе слова да тае пары, пакуль ён маець усе патрэбныя да жыцьця варункі: паветра, сьвятло, цяпло і г. д. За здароўем жывёлы трэба глядзець ня толькі ў хляве, але ўсюды, дзе яна толькі знаходзіцца.

Кожная здаровая адзінка, да якога-б віду і расы яна не належала-б, маець правільны нармальны апэтыт. Запынімся, галоўным чынам, на жвачных (каровы, авечкі, козы) у якіх пераж оўваньне стравы настае скора па ядзе і заўсёды ў правільных інтэрвалах часу. Шэрсьць павінна быць мяккая, гладкая і блішчастая. Вонкавая цяп-

лыня па ўсім цяле жывёлы павінна быць роўнамерная, Выняткі могуць быць толькі на нагах, рагах і вушох. Кал павінен быць мяккае консыстэнцыі, бяз усякага паху, колерам павінен набліжацца да колеру корму. Дыханьне павінна быць роўнамерным, спакойным без патугі. Кожнае патужлівае дыханьне з шырока адкрытымі ноздрамі — ненармальнае і ўказвае на тое, што скаціна хворая. Раптоўны кашаль так сама сьведчыць, што жывёла захварэла. Рух здаровае жывёлы павінен быць вытрывалым, бадзёрым, роўным, без натугі.

Будзем мець на ўвазе, што жывёлу трэба гадаваць і трымаць у нармальных умовах, добра дбаючы аб патрэбным корме і правільным ужываньні да працы. Вельмі важным чыньнікам у здароўі жывёлы зьяўляецца хлеў, на будову якіх мы і павінны зьвярнуць вялікую ўвагу.

Хлявы павінны будавацца на роўным высокім, а не ў лагчыні, мейсцы, каб у іх не заводзілася вільгаць, бо вільгаць зьяўляецца вельмі добрым чыньнікам для размнажаньня хваробных бактэрыяў і плесені. Хлявы павінны быць чыстыя, сьветлыя і цёплыя. Вядомы паталёг праф. доктар Johne правільна кажа: „Пабытам жывёлы ў хляве адбіраем у яе вельмі патрэбнае, сьвежае, чыстае, багатае кіслародам паветра, сьвятло і рух. Для гэтага павінны старацца, каб хлеў, хоць у малай меры, адпавядаў прыведзеным варункам. Галоўным чынам, трэба старацца каб у хлявох было шмат чыстага паветра, асабліва ў зімовую пару, калі жывёла змушана стаяць у хлявох, бо трэба помніць, што чыстае паветра ёсьць забясьпека процi хваробы арганізму жывёлы. Дзеля гэтага трэба зьвярнуць увагу, каб у хлеў быў доступ сьвежага і чыстага паветра, галоўным чынам, ў хлявы, дзе ўжо стаіць хворая скаціна, бо толькі ў такіх умовах хворы арганізм можа скарэй прыйсьці да здаровага стану. Як кажа старая чэская пагаворка: „Добра праветрана — з палавіну пакормлена“, мае ў сабе шмат справядлівасьці.

(П р а ц я г б у д з е).

**Інж. П. Орса.**

---

# Больш увагі даеньню.

Усе мы добра ведаем, як мала каровы нашыя даюць малака, але аб павышэньні ўдою мала хто з гаспадароў сур'ёзна думае. Тымчасам ўжо даўно пара на гэта зьвярнуць належную ўвагу, бо кошты вырабу збожжа перавышаюць іх рынчачную цану і збыт малочных прадуктаў павінен зрабіцца галоўнай крыніцай даходаў селяніна. У дадатак да гэтага мусім яшчэ сказаць, што гадоўля малочнае жывёлы цалком адпавядае прыродным умовам нашага краю.

Для добрай дойнасьці каровы патрэбна ня толькі, каб яна паходзіла ад дойнае расы і добра даглядалася, але ўдой яе, у вялікай меры, залежыць ад таго, якім спосабам карова доіцца. Можна і найлепшую карову даастатку сапсаваць кепскім даеньнем. Шматлікімі

досьледамі ўстаноўлена, што добрым даеньнем можна ня толькі павысіць дойнасьць жывёлы, але адначасна палепшыць і якасьць малака.

Пры даеньні трэба трымацца наступных правілаў:

I. правідловасьці даеньня,

II. дакладнага выдойваньня і

III. захаваньня паўнейшай чыстаты.

I. Правідловасьць даеньня значна ўплывае на ўдой. Пры добрым даеньні карова не павінна адчуваць ніякае болі, а наадварот, у яе павінна зьяўляцца пачуваньне прыемнасьці. Тымчасам, пры тым спосабе, якім у нас карова доіцца, такое зьявішча рэдка калі бывае і часта бываюць выпадкі, калі карова бяз усякай відочнай прычыны, не даецца даіць. У нас доюць у той спосаб, што бяруць у два пальцы дойку і цягнуць яе ў ніз.

Такі спосаб даеньня ёсьць мала адпаведным і, ў большай ці меншай меры, кепска ўплывае на само вымя. Пры гэтым спосабе трудна дарэшткі выдаіць малако і карова часта адчувае боль. Заграніцай пашыраны спосаб, пры якім малако з доек выціскаецца. Робіцца гэта такім чынам: вялікім і паказальным пальцам абыймаецца дойка каля самога вымя і моцна сьціскаецца, а пасьля па чарзе сьціскаецца далейшымі пальцамі. Потым пальцы, у тым-жа парадку як сьціскаліся, пушчаюцца і ізноў такім-жа спосабам дойка нанова сьціскаецца. Да таго трэба час ад часу абедзьвюма рукамі націскаць вымя каровы так, каб гэта упадабляла цялё пры ссаньню. Спосаб гэты вымагае шмат зручнасьці і ўменьня. Заграніцаю ў добрых гаспадарках не дояць кароў жанчыны, як у нас, але спэцыяльна вывучаныя мужчыны.

Доючы, тым ці іншым спосабам, трэба старацца каб карову даіла праз увесь час адна і тая самая асоба. Карова прывыкае да рукі тае асобы, якая яе доіць і калі прыдзе даіць нехта іншы, то будзе ўжо даіць ня так, як папярэдняя асоба: будзе даіць або хутчэй, або марудней, або занадта будзе сьціскаць струкі і г. д. Ад гэтага карова становіцца неспакойнай і не даецца даіць. Усё гэта робіць адемны ўплыў як на колькасьць, так і на якасьць удою. Далей трэба дбаць аб тым, каб даеньне адбывалася ў правідлова ўстаноўленую гадзіну і каб адно даеньне за другім адбывалася ў прыблізна адпаведных адлегласьцях часу.

II. Другою важнаю умовай добрай дойнасьці ёсьць дакладнае выдойваньне. Трэба даіць карову так, каб у вымі ня засталося ані капелькі малака. Пры недакладным выдойваньні ў найдрабнейшых раўчаках вымені застаецца малако, чым стрымліваецца вытвараньне новага малака, таму што малочныя жэлезы аслабяваюць у сваёй чыннасьці, драбнейшыя раўчакі пачынаюць зарастаць і, зразумела, дойнасьць з кожным разам будзе паменшвацца. Такім чынам і найлепшая карова пры недакладным выдойваньні можа страціць сваю вартасьць. Выняткам могуць быць толькі каровы якіх нельга выдойваць дарэшты зараз па ацяленьню, асабліва гэтата ня трэба запамінаць пры ацяленьню кароў вялікай малочнасьці. У такіх кароў можа лёгка настаць небясьпечная пародавая гарачка, якую выклікае неправідловае размяшчэньне крыві ў арганізме: шмат крыві прылівае

да вымені, а замала да іншых органаў. А дзеля таго зараз-жа па ацяленьню трэба здаіць толькі частку малодзіва, а пасьля, праз некалькі гадзін, можна ўжо выдаіць як трэба.

На дакладнасьць выдойваньня трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу ў маладых каровак па першаму цяляці, бо ў гэтую пару вымя найлягчэй разьвінуць. А таму, пры такіх каровах трэба як можна на даўжэйшы час (2—3 месяцы) пакідаць цялят.

Карысьць ад дакладнага выдойваньня палягае яшчэ і ў тым, што атрымліваецца шмат тлусьцейшае малако. А гэта з тае прычыны, што апошняе малако ў вымені ёсьць найтлусьцейшае. У гэтым можна лёгка пераканацца самому, калі падаіць у адну шклянку малака на пачатку даеньня, а ў другую шклянку—пры канцы даеньня і паставіць кіснуць. Па астаяўшайся сьмятане можна адразу пабачыць, якая вялікая розьніца ў тлустасьці паміж малаком першай і другой шклянкі.

III. Чыстата пры даеньню таксама адыгрвае вялікую ролю. Малако ў вымі здаровае каровы амаль што ня мае ніякіх бактэрыяў, а калі яны і ёсьць то ў вельмі нязначнай колькасьці. Так у сухотных кароў часам бываюць бацылы сухотаў і то незаўсёды. Галоўнае занячышчэньне малака адбываецца пры даеньні каровы і далейшых працах з ім. Дзеля гэтага трэба старацца каб пры даеньні і апрацоўцы малака была адпаведная ўва ўсім чыстасьць, бо занячышчанае малако ня толькі шкодліва для здароўя, але таксама з такога малака ня можа быць ні добрага масла, ні сыра.

... С

## Ці карысна трыманьне курэй у дробнай гаспадарцы?

Да гэтага часу пераважна панавала думка, што гадоўля курэй спэцыяльна для збыту не аплачваецца. Тымчасам досьледы апошніх гадоў паказваюць, што гадоўля курей пры больш-менш арганізаваным даглядзе добра акупаецца. У Эўропе ёсьць гаспадаркі, дзе пры гадоўлі 40 — 50 курэй, дабываецца ўтрыманьне для двух чалавек, пры гэтым увесь корм курам купляецца за грошы. Большасьць эўропэйскіх сельскіх гаспадарак аснована выключна на гародніцтве і на гадоўлі свойскае птушкі. У Нямеччыне, напрыклад, у дробнай гаспадарцы, агарод дае $^3/_4$ прадуктаў ежы, а курыныя яйца, па задаваленьні патрэбаў свае гаспадаркі, разам з агароднымі прадуктамі даюць грашовы даход. Аб карысьці гадоўлі курэй у дробнай гаспадарцы кажа тая акалічнасьць, што дробны гаспадар мае больш вольнага часу і, даглядаючы сам асабіста за курамі, можа шмат прычыніцца да падняцьця іх прадуктыўнасьці. Загранiцаю лепшыя курыныя гаспадаркі арганізаваны гаспадарамі, якія пасядаюць ад $^1/_2$-2 гэктараў зямлі. Аўтару, напрыклад, ведама адна гаспадарка ў паўдзёнай Швэцыі, дзе на плошчы $^3/_4$ гэктара ўтрымлівалася 103 куры. Даход ад гэтых курэй пазваляў гаспадару ня толькі бязьбедна жыць, але і трымаць яшчэ служанку. Пры чым характарна, што жонка гаспадара не даверала служанцы дагляду за курамі, а працавала на курніку сама.

Само сабою зразумела, што нашы гаспадарчыя ўмовы шмат чым адрожніваюцца ад гаспадарчых умоваў заграніцы. Аднак і ў нас, пры такой нізкай цане на прадукты палявой гаспадаркі, больш менш арганізаваная гадоўля курэй можа прыносіць значныя даходы.

Маючы на мэце вядзеньне прадуктыўнае гадоўлі курэй, трэба перш за ўсё, ў залежнасьці ад даходнасьці, выбраць пэўны кірунак гадоўлі, г. зн. гадаваць куры ці толькі на мяса, ці толькі носных, ці нарэшце курэй з камбінаванай прадукцыяй, якія пры параўнаўча добрай носнасьці—даюць і добрае мяса.

У Польшчы прапагандуюцца найбольш такія пароды курэй: з носных: — італьянскія Леггорны і краёвыя зялёнаножкі, з рас камбінаванай прадукцыі:—Род-Айленды, Плімут Рокі і Ваендоты.

З паміж носных курэй, Леггорны лічацца найлепшай носнай расай, але ёсьць досыць далікатнымі, а значыць, патрабуюць добрага дагляду. Што-ж датычыць курэй камбінаванай прадукцыі, то ў апошнія часы найбольшай папулярнасьцю карыстаюцца Род-Айленды.

Пры гадоўлі курэй для яек, трэба галоўную ўвагу зьвярнуць на носнасьць і трымаць толькі носных курэй, а не карміць дармаедаў. Дзеля таго ў добрых курыных гаспадарках праводзіцца кантроля носнасьці. Кожная курка мае мэталёвы абручок на назе на якім ёсьць нумар. Сама кантроля праводзіцца пры дапамозе кантрольных гнёздаў. Гнёзды гэтыя зроблены так, што дзьверцы адчыняюцца ў сярэдзіну гнязда так, што курка сама залазіць у гняздо, але выбрацца адтуль ня можа. Выпускае іх работнік, які за імі даглядае; пры гэтым на зьнесеным яйцы ставіць нумар і заносіць у кнігу. Такім чынам гаспадару вядома колькі кожная курка зьнесла яек. Пакідаючы толькі найбольш носных курей і даючы выседжваць яйкі толькі ад найлепшых носак, можна ў кароткі час значна павысіць носнасьць сваіх курэй. Апрача кантролі, трэба пакідаць для нясеньня яек толькі маладыя аднагадовыя куркі, бо носнасьць іх у гэты час ёсьць найбольшая. Яйкі для выседжваньня куранят, трэба браць ад двухгадовых, ужо пракантраляваных курак, якія зьнесьлі найбольшы лік яек. Вялікую ролю на носнасьць курэй адыгрывае пятух, а дзеля таго пятуха трэба пакідаць, які выйшаў з найбольш нясучае куркі. Яшчэ мусім зазначыць, што апрача прасторных і цёплых курнікаў, куры ў часе нясеньня павінны даставаць адпаведную колькасьць добрага корму. Найбольш носныя куркі лепей карміць асобна і лепшым кормам, бо яны яго заўсёды аплацяць.

Вось на гэтых кароценькіх увагах пакуль-што і затрымаемся, зазначыўшы толькі, што гаспадар наш павінен урэшце спыніцца браць прыклады з дзядоў і бацькоў, а ўважна чытаць аб гаспадарцы розныя кніжкі і журналы і прабаваць завесьці ў сябе ўсё тое, што дае вялікую карысьць гаспадаром у культурных краінах.

**В. К.**

# Як каваць коні.

Ня трэба і даводзіць якое важнае значэньне маюць для каня здаровыя бяз усякіх вадаў ногі. Бязваднасьць ног, у большасьці выпадкаў, залежыць ад стану, у якім знаходзяцца капыты каня. Звычайна, амаль што палавіна коняў мае хворыя капыты. Дый няма дзіва, бо на іх ня толькі спачывае вага цела каня, але яшчэ вялізарны цяжар прыпадае на іх дзякуючы працы, якую конь выконвае.

Капыты, як па форме свае будовы, так і па матэрыялу, найлепш адпавядаюць свайму назначэньню, зьяўляюцца як бы буфэрамі, якія зьмяншаюць устрос нагі пры ступаньні. Ня гледзячы на тое, што раговая маса, з акое збудованы капыт ужо сама па сабе зьмяншае ўстрос, але яна да таго яшчэ пабудована так, што пры ступаньні капыты расшыраюцца і робяцца ніжэйшымі і гэтым самым зьяўляюцца нібы пружынамі.

Аднак, так збудованыя капыты, у сучасных умовах, пры працы на каменнай дарозе, не выстарчаюць і прыходзіцца каня каваць. Але падкаваўшы каня мы, з аднаго боку, не дапушчаем надмернага сьціраньня раговае масы капыта, але, з другога боку, капытны рог падкованы ня можа ўжо так добра ахоўваць нагу ад устросу. Каротка кажучы, каваньне зьяўляецца шкодлівым для каня. Калі нават і правільнае каваньне каню шкодзіць, то што гаварыць аб дрэнным няўмелым каваньні, якое нішчыць і капыт і нагу і можа прывесьці да таго, што конь застанецца бяз ног. А дзеля таго на каваньне каня трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Падкоўваючы каня, трэба пільна ўважаць, каб каваль не капыт дапасоўваў да падковы, а наадварот, падкову да капыта. Перад каваньнем каваль павінен дакладна агледзець нагу каня—ці няма на ей засечак ад падковы, старую падкову—у якім мейсцы яна больш сьцерлася. Усё гэта трэба мець на ўвазе, каб пры новым каваньні ўнікнуць тых самых заганаў. Старую падкову ня можна адрываць сілаю, каб часамі не пашкодзіць капыт. Далей, вялікае значэньне для здароўя мае правільная расчыстка капыта перад каваньнем. Частыя хваробы капытаў, выклікаюцца кепскай расчысткай іх. Каваль павінен састругаць з падковы толькі стары струхлелы пласт рагавіны, уважаючы каб ад краю да стрэлкі быў адпаведны спад. Стрэлка павінна быць ачышчана, толькі ад струхлеўшае раговае масы не чапаючы здаровае. Раўкі паміж стрэлкаю і завернутымі сьценкамі капыта ня можна зашмат паглыбляць і ня можна стругаць самых зваротных сьценак. Потым раўнуюцца краі падэшвы, каб яны былі роўнымі і падкова да іх добра прыставала, каб між ёю і капытом ня было ніякіх шчылінаў. Пры расчышчваньні трэба мець на ўвазе, каб пярэдняя сьценка капыту была ў тры разы вышэйшай за заднюю ня пярэдніх нагах і ў два разы—на задніх. Ніколі ня можна пазваляць кавалю прыкладываць распаленую падкову, бо ад гэтага высушваецца і нішчыцца капыт. Падкова павінна быць добра дапасована да капыта. Не павінна быць ні вялікаю ні малою.

Вялікія і прасторныя падковы—цяжкія для ходу каня, часта робяць засекі на нагах і хутка адрываюцца. Малыя-ж і вузкія таксама

кепска, бо могуць выклікаць штэнгель (пад рагавінай націснута падэшва) і каня лёгка можна закаваць. Дзіркі ў падкове павінны прыходзіцца якраз над белаю лініяй капыта і пры тым апошняя дзірка не павінна быць блізка да канцоў (5 сант. ад канца), каб даць можнасьць капыту пры ступаньні расшырацца і звужвацца. Пры забіваньні вухналёў трэба глядзець каб канцы іх не выступалі вышэй як на 1/3 сьценкі капыта іначай конь можа быць закованы.

Каваць коні трэба толькі тады, калі ім прыходзіцца хадзіць па камяністай дарозе, альбо зімою, калі дарогі сьлізкія. У іншых-жа выпадках лепей калі коні раскованы. У падкованых коней хутчэй псуецца рог капыта, а калі ў адпаведны час не перакоўваць каня, то могуць паўстаць і розныя хваробы, як запаленьне, альбо паўстане шчылінаў рагавіны. Перакоўваць каня трэба кожны пяты тыдзень, бо капыта адрастае і падкова пачынае цісную на падэшву.

Часта здараецца, што конь пасьля каваньня пачынае кульгаць. Прычынай гэтага ёсьць тое, што падкова замнога падцягнута, альбо конь закованы. Калі конь закованы, дык можна пазнаць па тым, як высока на сьценцы павалазілі вухналі. Калі які з вухналеў вылез вышэй як на 1/8 частку сьценкі, то конь закованы і трэба гэты вухналь выцягнуць. Калі-ж падкова замнога падцягнута, то трэба паадгінаць вухналі і падкову крыху адцягнуць. **С.**

## Зазімаваньне перасаджаных маладых пладовых дрэўцаў.

Найбольш небясьпечнаю парою для маладых засаджаных дрэўцаў зьяўляюцца першая і другая зіма па іх пасадцы.

Да першае перазімоўкі дрэўцы не пасьпяваюць яшчэ укараніцца і ўмацавацца і таму баяцца марозу, а да другое—яны, дзякуючы абрэзцы, даюць за лета вялікі прырост маладых галінак, якім мароз таксама вельмі шкодзіць. Вось-жа для таго, каб унікнуць шкадлівых уплываў зімы, такія дрэўцы на зіму трэба абвязваць саломаю. Саломаю абвязваецца ня толькі пянёк дрэўца, але і яго карона, якая зьвязваецца ў пучок. Агледжаныя такім спосабам дрэцы могуць вельмі добра перазімаваць. Зразумела, што такая абвязка не саграваe дрэўца, але яна зьяўляецца ахаронаю дрэўца ад раптоўных зьменаў тэмпэратуры, галалёду і вятроў.

Апрача зімы ёсьць яшчэ і другая небясьпечная для перасаджаных дрэўцаў пара. Гэта раньняя вясна, калі ў дзень сонца добра прыгравае, а ўночы бываюць марозы. Часта здараецца, што ад награваньня сонцам дрэўцы пачынаюць расьці і тады досыць бывае невялічкага марозу, каб іх адразу зьнішчыць.

Каб унікнуць такой бяды трэба пастарацца ўстрымаць у дрэўцаў іх вельмі раньняе прабуджэньне. Робіцца гэта такім чынам: пад канец зімы, у часе адлігі, да дрэўцаў прыгортваеца як найбольш сьнегу, які добра ўтаптваецца. На ўтаптаны ўжо сьнег вельмі добра яшчэ палажыць пласт гною. Дзякуючы такому прыкрыцьцю, зямля

пад дзераўцам ня так скора адмярзае і дрэўцы, такім чынам, ня могуць перадчасна распачаць свой рост. Калі небясьпека начных прымаразкаў міне, трэба зараз-жа гной з пад дрэўцаў згрэбсьці. Пасьля чаго, пад уплывам цяпла і сонца, зямля хутка адтае і дрэўцы шпарка пачнуць расьці і хутка дагоняць у росьце дрэвы,якія ўжо распусьціліся.

Такі спосаб затрымліваньня вельмі раньняга прабуджэньня росту дрэўцаў карысны і для старэйшых дрэваў, асабліва для тых, якія вельмі рана цьвітуць. Дзякуючы гэтаму спосабу, можна ўтрымаць дрэвы ад перадчаснага расьцьвітаньня і такім чынам забясьпечыць іх ад вяснавых прымаразкаў. **М.**

---

# Карэспандэнцыі.

### З Нясьвіжскага павету.

З радасьцю ўзяў у свае рукі першы нумар часопісі „Саха“, адзінага нашага парадніка па сельскай гаспадарцы. Яшчэ больш узрадаваўся, калі азнаеміўся з зьместам часопісі і ўбачыў што „Саха“ робіць вялікі нацiск на разьвіцьцё і пашырэньне коопэрацыі.

На мяне, як коопэратара, напрамак і думкі Сахі зрабілі вельмі добрае ўражаньне і, з свайго боку, я хацеў бы падзяліцца сваімі думкамі, датычачымі разьвіцьця і пашырэньня коопэрацыі ў нашай старонцы.

Якім-жа шляхам мы будзем пашыраць коопэрацыю? вось пытаньне, якое мы павінны перадусім паставіць. Можа праз арганізацыю коопэратыўных курсаў? — але-ж такія курсы былі ужо арганізаваны Інстыт. Гасп. і Культуры. Можа праз пашырэньне коопэратыўнай думкі ў газэтах, у часопісах, у асобных кніжачках? Але і тут з жалем трэба ствердзіць, што газэтаў і часопісаў у нас на вёсцы мала чытаюць да апрача Сахі ніводная з іх і ня пашырае гэтае думкі, а на выданьне асобнае літэратуры па коопэрацыі няма грошаў дый гэта і не дасягне мэты. Трэба творыць па вёсках коопэратывы, а перадусім зарганізаваць у свой беларускі саюз усе існуючыя белар. коопэратывы, якія часова цяпер належаць да розных польскіх саюзаў. Ня толькі думаю, але і добра ведаю, што ахвотнікаў будзе даволі. Такі саюз, з правам рэвізіі, ў самым кароткім часе можа стаць самовыстарчальным, бо кожны коопэратыў будзе ўносіць ў свой саюз, тую складку, якую ўносіць і цяпер у іншыя саюзы.

Іныцыятыву тварэньня Беларускага Саюзу Коопэратываў павінен узяць на сябе Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурна-Асьветных і Грамадзкіх Арганізацыяў.

Кідаючы да агулу грамадзянства гэтыя свае думкі прасіў-бы, каб нашыя коопэратары і ўсе каму ляжыць на сэрцы гэтая справа, выказаліся па гэтаму пытаньню. Спадзяюся, што паважаная Рэдакцыя „Сахі“ ўдзеліць мейсца гэтым адповедзям на шпальтах свае часопісі.

**Коопэратар.**

---

# ПЧАЛЯРСКІ АДДЗЕЛ.

Пад рэдакцыяй старшыні Бел.
Каапэратыўн. Т-ва „Пчала“
Людвікі Войцікавай.

* * *

У разьвіцьці кожнага коопэратыўнага Т-ва, якое ня мае ўласных капіталаў, аграмаднае значэньне мае крэдыт. Гэтак сама і ў Т-ве пчалярскім. Можна сьмела сказаць, што там дзе няма крэдыту ня можна зарганізаваць збыту пчалярскіх прадуктаў ні здаволіць запатрэбаваньня на неабходныя пчалярскія прылады.

Перадусім кожнае пчалярскае коопэратыўнае таварыства павінна крэдытавацца сваімі сябрамі.

Сябры крэдытуюць свае таварыства грашыма, уносячы ў касу коопэратыву ня толькі паі, але-ж і свае ашчаднасьці на пэўны азначаны працэнт, і авансы на патрэбныя ім пчалярскія прылады, вузу, і г. п, а таксама аддаючы таварыству свой мёд і воск дзеля прадажы „на камісыю“ г. зн. не бяручы за іх адразу грошы, а разьлічваючыся тады, калі коопэратыў узятыя прадукты прадасьць і грошы за іх ад пакупшчыкаў атрымае. Значэньне гэткага крэдыту аграмаднае. Ад вялічыні яго, як і ад ліку сяброў таварыства, залежыць здабыцьцё апошнім крэдыту ў банках.

Але-ж, каб нават гэты банкавы крэдыт і вельмі лёгка было здабыць, апіраць на ім усей сваёй працы таварыства не павінна, бо нават самая невялічкая неакуратнасьць у выплаце можа выклікаць цэлую катастрофу, за якую атказываюць усе сябры коопэратыва.

Сябры коопэратыўнага таварыства павінны перадусім самі сваімі сіламі ўзмацаваць яго матэрыяльнае палажэньне.

Унесяныя паі, ўклады ашчаднасьцяў і таварны крэдыт, гэта тыя моцныя падставы на якіх таварыства можа будаваць сваю працу на карысьць сваіх-жа сяброў—сваіх крэдытараў. З гэтага вынікае, што ўся праца ў коопэратыўным таварыстве апіраецца на клічы: **„Самі сабе“**.

Ці аплоціцца пчалярам такое крэдытаваньне сваёй арганізацыі? — Тут ня можа быць двух паглядаў. — Возьмем хаця-б збыт мёду. Нашы неарганізаваныя пчаляры прадаюць яго на рынку, або розным агентам-гандлярам, як здарыцца, па рознай цане, незалежнай нават часта ад гатунку мёду. Ды наогул цэны на мёд вельмі малыя. Перад вайной цана мёду была роўнай цане масла, а сягоньня кілё масла каштуе (на правінцыі) 5 — 6 зл., а кілё мёду 2 зл. 40 грошы. Заграніцай гэтага няма. У Нямеччыне пчаляры прадаюць свой мёд выключна праз свае арганізацыі. Чэхі таксама згуртавалі прадажу свайго мёду ў сваім Цэнтральным Пчалярскім Саюзе і давялі да таго, што іх мёд надзвычайна добра запакаваны і рэклямаваны каштуе ў 4 разы даражэй чым цукер.

Разсартаваньне мёду на лепшы і горшы, прыгожая і гігіенічная

ўпакоўка, адпаведная рэкляма, здабываньне рынкаў збыту — вось заданьні, якія можа выпаўніць толькі арганізацыя, а ніколі паасобныя адзінкі. А выпаўненьне гэтых заданьняў прынясе з сабой вышэйшыя цэны на мёд, большае яго запатрэбаваньне, а што за гэтым ідзе і большы дабрабыт пчаляроў,

Далей арганізацыя, пчалярамі самымі створаная і матэрыяльна падтрыманая, здаволіць усе запатрэбаваньня на вузу і прылады, ды чым болей гэтых прыладаў разыйдзецца, тым больш яна матэрыяльна ўзмацуецца і тым шырэй здолее павясьці сваю працу. Перад багатай арганізацыяй ўсе магчымасьці: і курсы, і лекцыі, і ўзаровыя пчальнікі і высылка інструктараў на мейсцы і г. д. і г. д.

Яшчэ раз прыпомнім: **багатая і магутная арганізацыя—гэта вынікі сьвядомасьці і ахвярнасьці саміх пчаляроў.**

Дык да працы, паважаныя пчаляры! Гуртуйцеся ў Т-ве „Пчала“, падтрымлівайце яго, узмацоўвайце, будуйце, для сваёй-жа ўласнай карысьці.

---

## Як я выкарыстаў надстаўкі ў калодах.

Ужываньне надставак у рамовых вульлёх практыкуецца што раз шырэй і шырэй і з большым пераконаньнем. Перадусім ужываюцца яны ў вульлёх Дадана-Блата, з вельмі добрым вынікам; таксама ужываюць іх некаторыя пчаляры і ў вульлёх варшаўскіх. Зразумела, што без адпаведнай пагоды пчолы не нанясуць шмат мёду ў надстаўкі: трэба, каб агульныя варункі мёдабраньня былі спрыяючыя, гэта значыць, каб было цёпла і ня было засухі.

У першы-ж год, калі я стаў ужываць надстаўкі ў вульлёх Дадана, мёдазбор быў добры, і надстаўкі былі поўныя мёду, нягледзячы на тое, што некаторыя сем'і былі сярэдняй сілы. На другі, трэйці год таксама з надстаўкаў даставаў шмат мёду. Але ў мяне на пасецы дзеля таго, што ў кароткі час я ня мог перавесьці ўсе пчолы з калодаў у рамовыя вульлі, паняволі некалькі сямействаў заставалася і яшчэ застаецца ў калодах. Некаторыя калоды таксама нязгорш даюць мёду, але ўсё-ж такі менш у параўнаньні з надстаўкамі ў Дадановых вульлёх. За тое сярод іх былі такія дзьве калоды — адзін стаяк, а другі ляжак, у якіх штогод бываюць вельмі сільныя сем'і, але яны н і к о л і не давалі ані рою, ані мёду: увесь вулей заносілі толькі воскам, у якім, часам. набіралася фунты 1—3 мёду. Захаваньне гэтых пчол мяне не задавольвала і я пастанавіў прымусіць іх да працы дапасаваньнем да гэтых калодаў надставак.

За тыдняў *2 — 3* перад мёдазборам, калі ў гэтых вульлёх яшчэ ня так шмат было пчол, я асьцярожна ў стаяку ў кружку ў галавах, а ў ляжаку зьверху прыблізна ад сярэдзіны гнязда ў галавах да палавіны ніжняга даўжніка, прасьвідраваў да 10-ці дзірак шырынёю ў адзін — паўтара пальца ды папрапорваў воск пад гэтымі дзіркамі, каб яны з сярэдзіны вульля ня былі залепленыя воскам. Гэта я зрабіў не за адзін раз, а ў працягу некалькіх раніц, так што пчолы ня былі раздражненыя. У часе медабраньня, калі ставіліся надстаўкі ў

рамовыя вульлі, я паставіў надстаўкі і на гэтыя калоды. Вось у гэты момант работа крыху цяжэйшая, асабліва, калі ставіць надстаўку на калоду-ляжак. Трэба тонкія дошчачкі прыбіць у надстаўцы знізу з правага боку і з левага, а сярэдзіна астаецца адкрытаю; вось гэтаю сярэдзінаю трэба паставіць надстаўку на вулей над дзіркамі, кліночкамі пападпіраць, каб надстаўка не калыхалася направа і налева, паабтыкаць шкуматкамі ўсе шчыліны, зьверху рамкі таксама добра пакрыць, каб там было цёпла і цёмна, надстаўку прывязаць вяровачкаю, каб яна не зьяжджала ні ў бакі ні ў ніз; пасьля ўсяго гэтага я нават пакрываў стрэшкай, узмацаваўшы яе з двух бакоў калочкамі, убітымі ў зямлю.

(Працяг будзе).

**Я. Ш.**

---

## Як вывясьці з вульлёў вільгаць.

Шмат пчаляроў жаліцца, што ў зімовую пару ў іх у вульлёх заводзіцца вільгаць, ад якой сьценкі і плястры робяцца мокрыя, зацьвітаюць, маса пчолаў астыгаецца, сямья слабее, а нават часта зусім прападае.

Каб вывясьці вільгаць адныя радзяць здымаць на зіму тое палатно, або цырату, якой прыкрываюцца зьверху рамкі і замяніць іх матамі з саломы, або падушкамі з сухога лісьця, другія радзяць — праветрываць вульлі.

Да ліку апошніх належу і я. У мяне раней заўважвалася тое самае зьявішча. У вульлёх з адным ніжнім вылетам зьбіралася ў гарэ такая вялікая колькасьць выпараў, што аж капала са сьценак вульля, дно нацягівала вады і ўсе няжывыя, ляжаўшыя на ім пчолы зьбіваліся ў зацьвіўшы лямец. Шмат сем'яў зусім замірала.

Нічога падобнага не бачылася ў тых вульлях, дзе былі апрача ніжніх яшчэ і верхнія вылеты, або якія-небудзь іншыя душнікі. У гэтым я пераканаўся ў працягу некалькі гадоў.

З сваіх досьледаў я зразумеў, што халоднае паветра, пры адным ніжнім вылеце, падымаючыся зьнізу і стыкаючыся з верхнім цяплейшым паветрам перамянялася у каплі вады, якія асядалі на сьценках вульля і на плястрах вызываючы на іх цьвіль. Гэтым выпарам ня было выхаду, дзеля атсутнасьці ў верхняй часьці вульля якой-небудзь шчыліны.

Доўга не думаючы, я сьвярлом зрабіў па дзьве дзіркі ў верхняй часьці кожнага вульля і цяпер ні вільгаці ні цьвілі зімой ў вульлях ў мяне ня бывае. Вульлі вясной маю зусім сухія, плястры таксама, цьвілі няма, пчолы жвавыя і энэргічныя, мёду зьядаюць мала, апаўшых пчолаў амаль зусім ня бывае.

Каб праз гэтыя дзіркі ня ўлезьлі да вульля мышы, я зімой закладаю ў іх мэталёвыя трубачкі з аднаго боку засеткаваныя мэталёвай сеткай.

Рана вясной і позна ў восяні, калі ў вульлі павінна быць цёпла, дзіркі закладаюцца дрэўлянымі затычкамі, а ў летку, калі бывае горача, я затычкі вымаю і пчолы гэтымі дзіркамі карыстаюцца, як запасовымі вылетамі аб чым я суджу з гэтага, што цераз верхнія вылеты звычайна маладыя пчолы робяць свой аблёт, а старыя лётаюць праз ніжні вылет.

Дзякуючы такому разьдзелу пчол на два табары звычайнага сьціску, які даецца заўважыць пры адным вылеце, у мяне ня бывае.

Дзеля такога вялікага значэньня падвойных вылетаў у вульлях, я раджу сябром-пчалярам, у каторых ў вульлях толькі адзін вылет, абавязкава рабіць па два. Яны вельмі выгодныя і ў зімку і ў летку. У зімку ня будзе больш скаргаў на вільгаць у вульлёх, а ў летку — на гарачыню і душнасьць.

**С. С. Броякоўскі.**

(„Пчеловод-Практик"—1928 г.).

---

# Паштовая скрынка Т-ва „Пчала".

**Паўлу Асіповічу.** Пытаецеся чаму Т-ва „Пчала" не арганізуе завочных пчалярскіх курсаў, якія-б шмат пашырылі пчалярскую фаховую веду. Управа „Пчалы" даўно аб гэтым думае і да зрэалізаваньня сваёй думкі ў магчыма хуткім часе прыступіць. На гэтыя курсы ў першую чаргу будуць прыймацца сябры Т-ва. На сколькі за пэўны час, дапусьцім да 15 студня 1931 г. набярэцца 50 сяброў-пчаляроў, тады можна будзе прыступіць да працы Агітуйце, Грамадзянін, у сваёй ваколіцы, старайцеся прыдбаць нам новых сяброў (у першую чаргу запішыцеся самі), гэтым шмат дапаможаце да зьдзейсьненьня і Вашай і нашай думкі.

**Грамадзяне-Пчаляры!**

Пасьпяшыце, не адкладаючыператапіць Ваш воск і прыслаць яго ў Т-ва „Пчала" дзеля перапробкі на вузу! За перапробку Т-ва бярэ чацьвёртую часьць прысланага воску ды яшчэ 50 гр. ад кіля. Перасылка гатовай вузы на рахунак заказчыка.

# Пытаньні і адказы.

**Пытаньне 2.** Застлося ў мяне трохі насеньня леташняга лубіну. Чуў, што лубін можна вымачыць і скарміць жывёлай. Калі гэта праўда, то ў якой вадзе лепей вымачыць? **М. А.**

**Адказ.** Найлепш вымачыць лубін такім спосабам: спачатку зярнята мочацца ў звычайнай вадзе каля $1^1/_2$ сутак, пасьля трэба іх каля гадзіны паварыць і ізноў мачыць у звычайнай вадзе, час ад часу зьліваючы яе і замяняючы сьвежай. Калі лубін страціць усю гаркату можна яго дамешваць у корм усім свойскім жывёлінам. Добра яшчэ перад гэтым зярняты растаўчы.

**Пытаньне 3** Ці можна малаком перагнаным праз сэпаратар карміць парасят? **С К.**

**Адказ.** Можна, толькa трэба ўважаць, каб малако ня было закіснуўшым, бо ад такога малака ў парасят бываюць паносы.

# Дробныя парады.

### Простыя сродкі проці адмарожваньня.

Адным з самых простых сродкаў пры адмарожваньні зьяўляецца адвар каштанаў, якім націраюць памерзшыя мейсцы. Адвар гэты лепей за гусіны шмалец. Раіцца ўжываньне каштанавага адвару пры адмарожваньні твару, бо пры ўжываньні гэтага адвару, на твары не застанецца ніякіх плям, якія звычайна застаюцца на адмарожаных мейсцах. Другім добрым сродкам, асабліва пры моцным адмарожваньні, лічыцца морква, якую трэба расьцерці на тарцы і намазаўшы на ганучку, прылажыць да адмарожанае часьці цела.

### Як паправіць смак зьмерзлых пладоў і агародніны.

(Па Штэйнбергу)

Вельмі часта здараецца, што ў пограбе зімой ад той ці другой прычыны, плады ці агародзіна памерзнуць. Такія памерзлыя плады і агародзіна маюць няпрыемны смак і шкодныя для здароўя. Каб паправіць смак у такіх памерзлых пладоў ці агародзіны робяць гэтак: кладуць іх у ваду са сьнегам і ставяць у халоднае мейсца. Праз 15 мінут ваду зьліваюць, плады абціраюць халсьцінаю, а агародзіну прасушваюць на вольным паветры Досьледы паказалі, што плады і агародзіна пасьля гэтага, маюць прыемны смак і могуць спажывацца бяз шкоды для здароўя. **М. С**

# ХРОНІКА.

— 23 лістападу ў Вільні адбудзецца ўрачыстае сьвяткаваньне 10 угодкаў заснаваньня ў Вільні Беларускага Студэнскага Саюзу. У сале Сьнядэцкіх Унівэрсытэту Ст. Баторага а 11 г. адбудзецца ўрачыстая акадэмія, а вечарам у салі Апольлё адбудзецца канцэрт-баль з вельмі багатаю праграмаю.

— Выйшаў з друку наступны нумар часопісі Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні „Студэнская Думка". Гэты нумар прысьвечаны 10 угодкам заснаваньня Студэнскага Саюзу ў Вільні. Зьмест нумару вельмі багаты і цікавы. Прадаецца ўва ўсіх беларускіх кнігарнях. Цана асобнага нумару 1 злот.

— Друкуецца і хутка паступіць у прадажу другая частка повесьці Тараша Гушчы (Якуба Коласа) „У Палескай Глушы" пад назовам „У глыбі Палесься". Кніжка гэтая будзе каштаваць 4 залатых 25 грош. Набыць яе можна будзе ўва ўсіх беларускіх кнігарнях.

— Выйшаў з друку цікавы і багаты па зьместу ўкраінскі гаспадарчы календар на 1931 г. „Сільский Господар" Выдала гэтую кніжку і прадае ўкраінскае Т-ва „Сільский Госпадар" Львоў, Зіморовіча 20-1.

— Вышла з друку і прадаецца брашура Ул. Казлоўшчыка „Плач беларускай старонкі маткі па дзетках сваіх рэнегатах.

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаная Рэдакцыя!*

Сярод масы нашых сельскіх гаспадарак бяспрэчна адчуваецца адсутнасьць усялякай агранамічнай веды, якую трэба было-б разьвіць сярод земляробаў Заходняй Беларусі.

Я шмат разоў заявляў нашым грамадзкім дзеячам, а цяпер заяўляю, за пасрэдніцтвам часопісі „Сахі", найпаважнейшай цяпер беларускай арганізацыі „Беларускаму Цэнтрасаюзу", што ў выпадку адчыненьня ім так патрэбнай сельска-гаспадарчай школы, я бясплатна адпускаю пад карыстаньне такой школы 10 дзесяцін грунтаў у Маладэчаншчыне.

Паважаную рэдакцыю „Сахі" прашу падаць гэта да ведама.

З пашанай **Павел Асіповіч.**

1. XI. 1930 г.

Ф. Манюшчыца, вол. Беніца пав. Маладэчанскі.

**Ад рэдакцыі:** Шчыра вітаемо думку і ахвярнасьць гр. П. Асіповіча. Мусімо зазначыць, што калі-б такая ахвярнасьць больш праяўляласа сярод нашага грамадзянства, то шмат што далося-б зрабіць для разьвіцця і поступу нашае вёскі. Што-ж тычыцца адчыненьня сельска-гаспадарчае школы, то паводле інфармацый атрыманых рэдакцыяю, „Цэнтрасаюз" мае сваім заданьнем адчыненьне такіх школаў і курсаў і, ў залежнасьці ад абставін і матэрыяльных сродкаў, будзе ў першую чаргу старацца здзейсьніць іх. Пакуль што бел. „Цэнтрасаюз" мае на мэце, пры першай магчымасьці, арганізаваць пры „Сасе" досьледнае поле.

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: інж.-агр. С. БУСЕЛ.
Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Прасьв. і Гаспад Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

Выйшаў з друку і прадаецца

# Белар. Адрыўны Календар (блёк)

Беларускага Выдавецкага Т-ва **на 1931 г.** Беларускага Выдавецкага Т-ва

**Друкаваны кірыліцай і лацінікай, з праваслаўнымі і каталіцкімі сьвятамі, паводле новага і старога стылю.**

Календар зьмяшчае ў сабе аддзелы: мастацка-літэратурны, навуковы, астранамічны, гумарыстычны, нацыянальна-грамадзкі, школьны, гістарычны, мэдыцынскі, сельска-гаспадарчы, пчалярскі, коопэратыўны і шмат практычных парадаў на розныя неабходныя патрэбы ў штодзенным хатнім і гаспадарчым жыцьці.

## Цана календара 1 зл. 25 грош.

**Перасылка заказным друкам 70 грош., а простым — 30 гр., у большым ліку паводле паштовае тарыфы.**

**ХТО КУПЛЯЕ:**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ад | 10 штук | да 25 штук, | дастае ськідкі | 10 | працэнтаў. |
| „ | 25 „ | „ 50 „ | „ „ | 15 | „ |
| „ | 50 „ | „ 100 „ | „ „ | 20 | „ |
| „ | 100 і болей | „ | „ „ | 25 | „ |

Заказы выконваюцца за гатоўку, або накладнай платай ня менш як на 5 зл. па атрыманьні задатку ня менш 1/3 вартасьці заказу. Без задатку заказы ня будуць выконвацца. Перасылка за кошт заказчыкаў.

Дзеля таго, што календар выданы ў абмежаванай колькасьці, заказы выконваюцца ў парадку іх паступленьня.

**У крэдыт кнігарня Б. В. Т. календароў не дае.**

**СЬЦЕНКІ ДА КАЛЕНДАРА** (блёка) шматкалёрнага мастацкага выкананьня з абразкамі родных малюнкаў вясны, лета, восені і зімы ў апраме ўзораў беларускіх тканін і паясоў. **Цана 35 гр.** Ськідка атрымоўваецца залежна ад ліку, як і на календары.

**Галоўны склад: Беларуская Кнігарня Белар. Выдавецкага Т-ва Вільня, Вострабрамская вул. № 1.**

УВАГА. Беларускі адрыўны календар Беларускага Выдавецкага Таварыства быў выдаваны на 1927 г., 1928 г. і 1929 г. і добра ведамы яго чытачом. Купляйце адрыўныя календары ведамага вам Беларускага Выдавецкага Таварыства.

Пры куплі календара Бел. Выд. Т-ва трэба зьвяртаць увагу на вокладку, на якой напісана, што гэта календар Беларускага Выдавецкага Т-ва і павінен мець значок Выдавецтва—васілёк з каласамі.